# Голас Радзімы

№ 8 (2098)
23 лютага 1989 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.





У глыбіні хвойных бароў паміж блакітнымі стужкамі рэк Бярэзіны і Гайны прыжыўся вялікі статак зуброў. Што і гаварыць, для Барысаўскага раёна гэта сенсацыя, аднак усё стане зразумелым, калі нагадаць, што менавіта тут раскінуліся ўгоддзі мясцовага доследнага лясгаса. Яго супрацоўнікамі для жыхароў лесу, занесеных у Чырвоную кнігу, абсталяваны спецыяльныя кармушкі. У тутэйшых лясах можна ўбачыць таксама рэдкіх птушак: чорнага бусла, беркута, арлана-белахвоста.

Адзін з буйнейшых у рэспубліцы, гэты лясгас стаў узорам рацыянальнага і беражлівага выкарыстання прыродных рэсурсаў. Як і ў многіх іншых месцах, тут на спецыяльна адведзеных участках вядуць высечку, збор харчовай прадукцыі, лекавай сыравіны. Уся гэтая дзейнасць чалавека не перашкаджае прыродзе захоўваць сваю прыгажосць і разнастайнасць.

Заахвочваюць тут і новыя формы гаспадарання. Далёка за межамі Мінскай вобласці вядома майстэрства цесляроў кааператыва «Светлы гай», створанага пры лясгасе. З адходаў лесавытворчасці яны вырабляюць разныя церамкі, веранды, пясочніцы, арэлі для дзіцячых садоў.

НА ЗДЫМКАХ: егер М. ХАЦКЕВІЧ і паляўнічазнавец Г. АЎЛАСЁНАК аглядаюць пляцоўку для падкормкі лясных насельнікаў; цесляры А. АДАМЧЫК і С. АДАМЕЙКА; А. ГЛУШАНІН — адзін з лепшых ляснічых; гаспадар бору — зубр.

Фота Я. ВАСІЛЬЕВА.





# ЗАЯВА САВЕЦКАГА ЎРАДА

Дзейнічаючы ў дакладнай адпаведнасці з жэнеўскімі пагадненнямі, СССР завяршыў вывад савецкіх войск з Афганістана. У гэтай краіне не засталося ніводнага савецкага салдата.

Падпісваючы ў свой час жэнеўскія пагадненні, Савецкі Саюз і Рэспубліка Афганістан зыходзілі з таго, што дакладная рэалізацыя абавязацельстваў па пагадненнях усімі ўдзельнічаючымі ў іх бакамі можа і павінна стварыць надзейную аснову для спынення зацяжнога канфлікту паміж процібортсвуючымі афганскімі групоўкамі, садзейнічаць аднаўленню міру на афганскай зямлі і стабілізацыі абстаноўкі ў рэгіёне ў цэлым.

Канструктыўная лінія Савецкага Саюза і Рэспублікі Афганістан стварала ўсе магчымасці для спынення кровапраліцця на афганскай зямлі і пошуку ўзаемапрымальных кампрамісаў, якія ўлічваюць законныя інтарэсы ўсіх бакоў і удзельнікаў канфлікту.

Урад Рэспублікі Афганістан прапанаваў праграму нацыянальнага прымірэння. Ён выступіў за адраджэнне Афганістана як незалучанай і нейтральнай дзяржавы, якая падтрымлівае добрасуседскія адносіны з усімі краінамі. Савецкі Саюз з поўным разуменнем аднёсся да гэтых важнейшых ініцыятыў і аказвае ім падтрымку, бо існаванне стабільнага і працвітаючага Афганістана адпавядае і нашым інтарэсам.

Як будзе складвацца становішча ў Афганістане, у многім залежыць ад таго, ці возьмуць іншыя ўдзельнікі жэнеўскіх пагадненняў прыклад з Савецкага Саюза і кіраўніцтва Рэспублікі Афганістан, ці праявіць узброеная апазіцыя, якая аперыруе з тэрыторый Пакістана і Ірана, пачуццё адказнасці і меры, здольнасць мысліць не аднымі катэгорыямі насілля. Сёння відавочна, як ніколі, што апазіцыі, калі ёй у прынцыпе не бракуе рацыянальнага мыслення, няма чаго ламацца ў адчыненыя дзверы, прагягваючы братазабойства, калі праблемы, якія стаяць перад афганцамі, можна вырашыць за сталом перагавораў.

Ці пойдзе далейшае развіццё афганскай сітуацыі па шляху нацыянальнай згоды і стварэння ўрада на шырокай кааліцыйнай аснове, гэта значыць так, як гэта прадугледжана адпаведнай рэзалюцыяй 43-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН, або па шляху эскалацыі вайны і напружанасці ў краіне і вакол яе,—залежыць у значнай меры ад тых, хто ўсе апошнія гады заахвочваў узброеную апазіцыю і аснашчаў яе для гэтага разнастайнымі сістэмамі зброі. Савецкі Саюз пацвярджае сваю прапанову аб не адкладным спыненні агню паміж варагуючымі афганскімі групоўкамі і адначасовым спыненні паставак узбраенняў у Афганістан усімі краінамі, уключаючы СССР і ЗША.

Зусім зразумела, што ў цяперашніх умовах, пасля выхаду з Афганістана савецкіх войск, асаблівая адказнасць кладзецца на Пакістан, які павінен строга захоўваць узятыя на сябе па жэнеўскіх пагадненнях абавязацельствы і не дапускаць выкарыстання сваёй тэрыторыі для ўмяшання ў афганскія ўнутраныя справы.

У Савецкім Саюзе не могуць таксама прайсці міма заяў асобных прадстаўнікоў пакістанскага кіраўніцтва аб магчымасцях стварэння ў будучыні нейкай пакістана-афганскай канфедэрацыі. Падобныя разглагольстваванні на справе накіраваны на прамое ўшчамленне суверэнных правоў народа Афганістана.

Вялікую ролю ў наданні пазітыўнага характару працэсам, якія адбываюцца ў Афганістане, заклікана адыграць Арганізацыя Аб'яднаных Нацый з яе багатым міратворчым вопытам у розных рэгіёнах свету. Канкрэтным яе ўкладам у справу прымірэння на афганскай зямлі з'яўляюцца распрацаваныя праграмы эканамічнай і гуманітарнай дапамогі Афганістану. Важна, каб механізм гэтай дапамогі разгортваўся як мага хутчэй і аператыўней.

Надзвычай сур'ёзнай праблемай для Афганістана застаецца праблема бежанцаў. Гэта праблема хвалюе ўсіх афганцаў, незалежна ад іх палітычных поглядаў. Але яе нельга вырашыць без спынення агню. Толькі спыніўшы вайну, удасца рэалізаваць магчымасці для вяртання бежанцаў, закладзеныя ў жэнеўскіх пагадненнях.

Савецкі Саюз гатоў рабіць ўсё, што ад яго залежыць, каб савецка-афганскае эканамічнае супрацоўніцтва працягвала служыць інтарэсам нашых народаў—як на цяперашнім этапе, садзейнічаючы пераходу да мірнага жыцця, так і пасля дасягнення ўсеабдымнага афганскага ўрэгулявання. Гэта наша гатоўнасць выражаецца і ў актыўным удзеле Савецкага Саюза ў шматбаковай дапамозе Афганістану па лініі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

Выходзячы з Афганістана па добрай волі і ўзгадненню з афганскім кіраўніцтвам, Савецкі Саюз будзе і ў далейшым садзейнічаць міру і ўсеабдымнаму афганскаму ўрэгуляванню.

Мы спадзяёмся, што афганскі народ выбера шлях міру і згоды, толькі гэты шлях і кладзе канец кровапраліццю і будзе садзейнічаць усталяванню спакою на зямлі старажытнага Афганістана.

ЭКСПРЭС-ІНТЭРВ'Ю

## СУПРАЦОЎНІЧАЮЦЬ ЮРЫСТЫ

**З 12 па 18 лютага ў нашай рэспубліцы знаходзілася група юрыстаў — прадстаўнікоў урадавай камісіі Вялікабрытаніі па выкрыццю нацысцкіх злачынстваў. У Пракуратуры БССР наш карэспандэнт сустрэўся з кіраўніком групы, былым пракурорам Англіі і Уэльса сэрам Томасам Чалмерсам ХЕЗЕРЫНГТОНАМ.**

**— НАШЫМ ЧЫТАЧАМ БУДЗЕ ЦІКАВА ДАВЕДАЦЦА ПРА ДЗЕЙНАСЦЬ ВАШАЙ КАМІСІІ І МЭТУ ПРЫЕЗДУ ГРУПЫ Ў БЕЛАРУСЬ.**

— Прыкладна паўтара года назад Брытанскі ўрад атрымаў з розных крыніц спісы асоб, што падазраюцца ў здзяйсненні злачынстваў у час вайны, якія, па ўсёй верагоднасці, пражываюць цяпер у Вялікабрытаніі. Такія спісы паступілі і з Савецкага Саюза. У сувязі з гэтым і была створана наша камісія. Яна выконвае вельмі вялікі аб'ём работы. Вы разумееце, прайшло многа гадоў і пошук гэтых асоб рабіць цяжка. Многія змянілі свае прозвішчы, біяграфіі, некаторыя проста памерлі. Тым не менш, намі выяўлена значная колькасць ваенных злачынцаў, якія лютавалі ў час вайны ў розных краінах, у тым ліку і на тэрыторыі СССР. Але справа ў тым, што па існуючаму ў нас заканадаўству, мы не маем магчымасці перадаць гэтых асоб уладам тых краін, дзе яны ўчынілі злачынствы, таму што цяпер яны з'яўляюцца брытанскімі грамадзянамі. З другога боку, мы не можам аддаць іх пад суд у сябе, таму што ў той час, калі яны ўчынялі злачынствы, яны не былі грамадзянамі Вялікабрытаніі. Такі закон. Таму цяпер паўстае пытанне аб яго змяненні. Групы нашай камісіі выязджаюць у розныя краіны і збіраюць матэрыялы і сведчанні злачынстваў гэтых асоб у час вайны. Наша група ўжо пабывала ў Латвіі, на Украіне, і вось цяпер мы ў Беларусі, дзе было ўчынена шмат ваенных злачынстваў. Аб выніках нашай паездкі мы даложым міністру ўнутраных спраў. Міністэрства павінна падрыхтаваць новы законапраект і ўнесці яго на разгляд парламента. Калі парламент яго зацвердзіць, то гэтыя людзі паўстануць перад судом.

**— А КАЛІ НЕ ЗАЦВЕРДЗІЦЬ!**

— Тады, па існуючаму заканадаўству, мы бяссільныя што-небудзь зрабіць супраць іх. Але, я думаю, гэтага не здарыцца. Наша група сабрала пераканаўчыя доказы ваенных злачынстваў многіх асоб, указаных у спісах, вязём з сабой сведчанні жывых відавочцаў жорсткіх расправ з ні ў чым невінаватым мірным насельніцтвам. Тое, што мы ўбачылі і даведаліся тут аб зверствах нацыстаў і іх памагатых, зрабіла на нас жахлівае ўражанне. Мы лічым, што ваенным злачынцам даравання быць не можа. Усе яны павінны быць пакараны. Такое ж меркаванне і большасці англічан, а наш урад абараняе інтарэсы народа. Таму, я думаю, такі закон будзе прыняты.

**— ВЫ САМІ СКАЗАЛІ, ШТО ПАСЛЯ ВАЙНЫ ПРАЙШЛО МНОГА ЧАСУ. ЦІ НЕ ПОЗНА ПАЧАЛА ДЗЕЙНІЧАЦЬ ВАША КАМІСІЯ! ДАРЭЧЫ, НЯДАЎНА ТЭЛЕБАЧАННЕ ШАТЛАНДЫІ ПАВЕДАМІЛА АБ ПРЫНЯТЫМ БРЫТАНСКІМ УРАДАМ ЯШЧЭ Ў 1948 ГОДЗЕ САКРЭТНЫМ ДАКУМЕНЦЕ, ЯКІ ПАТРАБАВАЎ СПЫНІЦЬ ПРАСЛЕДАВАННІ НАЦЫСЦКІХ ЗЛАЧЫНЦАЎ. ЦІ ВЯДОМА ВАМ ПРА ГЭТА!**

— Так, вядома. Такі дакумент сапраўды быў, але тэлебачанне крыху сказіла яго сэнс. Размова ішла аб завяршэнні расследавання спраў асоб, якія ўжо знаходзіліся пад следствам. Вельмі многія ўжо былі пад вартай па некалькі гадоў без суда. І гэтыя справы трэба было хутчэй заканчыць. Акрамя таго, мы ніяк не думалі, што столькі нацысцкіх злачынцаў асела ў нашай краіне, не ведалі аб іх зверствах і цяжкасці злачынстваў. Яшчэ раз скажу: лічу, што любое злачынства павінна быць пакарана. Лепш пазней, чым ніколі. Акрамя таго, наша супрацоўніцтва раней не магло развівацца так плённа з-за напружанасці ў адносінах паміж нашымі краінамі. Цяпер жа, са змяненнем міжнароднага палітычнага клімату, яно стала магчымым. У нас ёсць агульныя праблемы і інтарэсы. Гэта і міжнародны тэрарызм, угон самалётаў, бізнес наркотыкамі і, вядома ж, розшук і пакаранне ваенных злачынцаў. Усё гэта можна і трэба вырашаць разам. Хачу яшчэ сказаць, што мне вельмі спадабаўся ваш горад і я абавязкова яшчэ раз прыеду сюды.

— Да ўсяго сказанага магу дадаць, што мы былі рады прымаць нашых брытанскіх калег і аказалі ім неабходную дапамогу,— сказаў Пракурор БССР, Дзяржаўны саветнік юстыцыі другога класа Георгій Тарнаўскі, які прысутнічаў пры гутарцы. — Мы ўжо маем вопыт супрацоўніцтва з замежнымі юрыстамі. У мінулым да нас прыязджалі групы з Аўстраліі і Канады. Дарэчы сказаць, да нядаўняга часу заканадаўства адносна ваенных злачынцаў у гэтых краінах было аналагічна брытанскаму. Цяпер яно зменена і вінаватыя паўсталі перад судом. Спадзяюся, што і вынікі паездкі групы на чале з сэрам Хезерынгтонам акажуць станоўчы ўплыў на рашэнне брытанскага парламента. Мы і надалей будзем рады развіваць супрацоўніцтва з нашымі калегамі з Вялікабрытаніі.

БЕЛАРУСЬ У ЮНЕСКА

## ДАР БІБЛІЯТЭЦЫ

**У парыжскай штаб-кватэры Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па пытаннях адукацыі, навукі і культуры пастаянны прадстаўнік Беларускай ССР пры ЮНЕСКА Віктар Калбасін у прысутнасці дыпламатычных прадстаўнікоў, акрэдытаваных пры гэтай арганізацыі, намесніка генеральнага дырэктара ЮНЕСКА Томаса Келера, супрацоўнікаў Сакратарыята, а таксама прадстаўнікоў грамадскасці перадаў у дар бібліятэцы ЮНЕСКА «Энцыклапедыю літаратуры і мастацтва Беларусі», што выйшла нядаўна ў Мінску.**

**У распаўсюджаным сярод дзяржаў — членаў арганізацыі паведамленні гэтая пяцітомная энцыклапедыя названа унікальнай. Прадстаўленыя ў выданні артыкулы адлюстроўваюць усё багацце і нацыянальныя асаблівасці беларускага народа.**

**Выданне «Энцыклапеды літаратуры і мастацтва Беларусі» з'яўляецца ўкладам рэспублікі як члена ЮНЕСКА ў Сусветнае дзесяцігоддзе культурнага развіцця, аб'яўленае гэтай міжнароднай арганізацыяй у пачатку мінулага года.**

ПЕРАДВЫБАРЧАЯ КАМПАНІЯ



**Народны мастак СССР, старшыня прэзідыума Беларускага таварыства «Радзіма» Міхаіл САВІЦКІ вылучаны кандыдатам у народныя дэпутаты СССР. Нядаўна адбылася яго сустрэча з грамадскасцю Мінска. Міхаіл Савіцкі расказаў аб сваёй праграме, адказаў на шматлікія пытанні прысутных.**

У БАТАНІЧНЫМ САДЗЕ



**Ананасы сярод зімы паспелі ў аранжарэі Цэнтральнага батанічнага саду АН БССР. Яшчэ ў маі мінулага года пяшчотная трапічная расліна парадавала батанікаў сваім цвіценнем. І вось толькі цяпер яны дачакаліся духмяных пладоў.**

**Больш за дзве тысячы відаў трапічных і субтрапічных культур можна сустрэць у аранжарэі. Гэта і рэдкія разнавіднасці пальмаў, папаратнікаў, і мноства кактусаў, і пяць відаў ананасавых. Вучоныя-батанікі займаюцца вывядзеннем новых раслін у нашай зоне, вывучэннем іх лекавых уласцівасцей.**

**НА ЗДЫМКУ: малодшы навуковы супрацоўнік батанічнага саду Валянціна ЧАРТОВІЧ з вырашчаным ананасам.**

ДЗЕЛАВОЕ ПАРТНЁРСТВА

## АСВОІЛІ МІЖНАРОДНЫ РЫНАК

**Аўтарытэт дзелавога партнёра ўсё больш набывае калектыў торфапрадпрыемства імя Даумана Шумілінскага раёна, што на Віцебшчыне. Перш за ўсё гэта выяўляецца ў бездакорным выкананні дагаворных абавязацельстваў па пастаўках і рэалізацыі прадукцыі.**

**У мінулым годзе невялікім прадпрыемствам «глыбінкі» выпушчана тавараў народнага спажывання на 635 тысяч рублёў. Асноўная прадукцыя карыстаецца нязменным попытам не толькі ў нашай краіне, але і за мяжой. Так, у ФРГ, Італію, Францыю і Аўстрыю было адгружана больш васьмі тысяч тон кіпаванага торфу.**



**Арандатарам буйных вытворчых магутнасцей стаў калектыў Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода. Гэтаму папярэднічала двухгадовая работа прадпрыемства па першай мадэлі гаспадарчага разліку, што дазволіла якасна палепшыць асноўныя параметры гаспадарчай дзейнасці. Цяпер нафтаперапрацоўшчыкі вырашылі асвоіць і больш высокую ступень гасразліку — арэндны падрад. Стаўшы паўнапраўнымі гаспадарамі завода, яны зрабілі стаўку перш за ўсё на асваенне новых канкурэнтаздольных відаў прадукцыі. Дарэчы, мазырскі неэтыліраваны бензін А—92 заходнія краіны ўжо купляюць за валюту, а на бензін А—96 далі заяўкі. Вось і разлічваюць арандатары, што гэта дасць ім магчымасць правесці тэхнічнае пераўзбраенне завода, укараніць у вытворчасць тэлемеханіку і камп'ютэрную тэхніку, дабіцца новых, больш высокіх вынікаў.**

**НА ЗДЫМКАХ: Мазырскі нефтаперапрацоўчы; з алоўкам у руцэ даказвае перавагі арэнднага падраду дырэктар завода Анатоль ЗУБОЎСКІ.**

**Фота І. ЮДАША.**



# МІКРОБЫ Ў... РЫБАЦКІХ СЕТКАХ

Калі б яшчэ зусім нядаўна забеспячэнцам беларускіх ільнозаводаў сказалі, што для патрэб вытворчасці яны будуць шукаць рыбацкія сеткі, то яны палічылі б гэта за жарт. Але сёння гэта факт. Прычым, ратаваць план з дапамогай карасёў яны не збіраюцца. Снасці з капрону ім спатрэбіліся для «лоўлі» мікраарганізмаў і стварэння ідэальных умоў для біятэхналагічнай рэгенерацыі вадкасці, у якой вымочваецца лён. Навінка, прапанаваная вучонымі Інстытута фотабіялогіі Акадэміі навук БССР і Навукова-даследчага інстытута прамысловасці першаснай апрацоўкі лубяных валокнаў, за два гады ўкаранёна на шаснаццаці льнозаводах рэспублікі. Прычына такога хуткага поспеху зразумелая: пры затратах усяго каля тысячы рублёў і мінімальным пераабсталяванні аснашчэння цэхаў гадавы эканамічны эфект складае ад 30 да 50 тысяч рублёў на кожным прадпрыемстве.

— Вызваленне вадкасці ад кіслот, што назапашваюцца ў выніку разлажэння арганікі, магчыма толькі ў прысутнасці кіслароду і асобых мікраарганізмаў,— тлумачыць доктар біялагічных навук Уладзімір Мажуль. — Па традыцыйнай тэхналогіі ўсё выглядала проста: мікраарганізмы свабодна плавалі ў суспензіі, праз якую прапампоўвалася паветра, і рабілі сваю карысную справу. Рабілі, праўда, не зусім добра, паколькі буйныя паветраныя бурбалкі, хутка паднімаючыся з дна рэзервуара, аддавалі вадзе мала кіслароду. Ды і мікраарганізмы, што аддаюць перавагу больш спакойнаму асяроддзю, адчувалі сябе няўтульна ва суспензаваным стане сярод «кіпячай» вадкасці.

Усе гэтыя праблемы вырашыла дробнаячэістая рыбацкая сетка. Разбіваючыся аб яе шматлікія ніці, паветра, што паднімаецца, драбіцца на маленечкія бурбалкі, якія поўнасцю аддаюць кіслярод. Між саміх жа капронавых валокнаў знайшлі прытулак карысныя мікраарганізмы. Як паказалі эксперыменты, пераходзячы да «аселага жыцця», яны ў 2-3 разы павышаюць актыўнасць. Гэты прыём, на думку вучоных, можна выкарыстоўваць не толькі на льнозаводах, але і ў многіх іншых галінах, дзе прымяняюцца біятэхналагічныя метады.

Эканамічны эфект ад укаранення распрацоўкі вучоных складваецца, галоўным чынам, за кошт зберажонай электраэнергіі. Яе патрабуецца цяпер для нагнятання паветра ўтрая менш. Важкі і эфект санітарны. З укараненнем навінкі знік непрыемны пах гнілі, які, здавалася, навечна пасяліўся ў сценах ільнозаводаў.

**Д. ПАТЫКА.**

*ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ ВУЧОНАГА*

# ЯКОЕ ГРАМАДСТВА ПАБУДАВАНА?

**Якое грамадства пабудавана ў СССР! У навуковых колах прытрымліваюцца розных поглядаў на гэтую праблему. Адны лічаць, што ад сацыялізму засталіся толькі лозунгі. Другія прапаноўваюць разглядаць цяперашні этап як усё яшчэ пераходны перыяд да сацыялізму. Трэція даказваюць, што ў сталінскім варыянце быў пабудаваны казарменны сацыялізм. Чацвёртыя перакананы, што можна гаварыць толькі аб дэфармацыях, адступленнях ад сацыялізму, дапушчаных у час культу асобы. У аўтара артыкула — свой пункт гледжання.**

Адзяржаўліваючы асноўныя сродкі вытворчасці, Савецкая ўлада першапачаткова накіравала манапольнае валоданне імі на карысць народа. Але ад гэтага «дзяржаўна-капіталістычная манаполія», перастаўшы быць капіталістычнай, па-першае, не стала аграмаджаннем на справе, па-другое, не перастала быць манаполіяй. Больш таго, яна прыняла немагчымы ў іншых грамадствах усеабдымны характар — у яе ўсе служылі «па найму». Пазбавіўшыся канкурэнцыі — таго, што развівала прадукцыйныя сілы капіталізму,— яна захавала ў сабе тое, супраць чаго рабілася сацыялістычная рэвалюцыя, — умовы, што вымушалі працоўных прадаваць сябе «паштучна» гаспадарам вытворчасці, або наёмную працу. І ў гэтым, на мой погляд, прычына ўсіх бед, перажытых народам.

Спроба пераходу ад манапалізму, зробленая нэпам, давала верныя, даволі хуткія станоўчыя вынікі. Аднак разавыя спачатку, а потым сістэматычныя абмежаванні нэпа і згортванне гэтай палітыкі ў канцы 20-х гадоў зноў выклікалі вядзенне гаспадаркі на пачатках харчразвёрсткі, г. зн. адзяржаўленне ўсяго і ўся. Фактычнае адзяржаўленне сельскагаспадарчай вытворчасці прывяло да таго, што агульны аб'ём яе прадукцыі да канца першай пяцігодкі быў ніжэйшы, чым у яе пачатку, [illegible] наступныя гады ўзнімаўся вяла і то[illegible] за кошт экстэнсіўных фактараў. Вынік — сёння краіна не ў стане пракарміць сябе без закупак за мяжой хлеба і многага іншага. Прамысловасць развівалася рыўкамі і таксама ў асноўным за кошт экстэнсіўных фактараў. Звышмаксімальная канцэнтрацыя сіл і сродк[illegible] а развіцці цяжкай прамысловасці а[illegible]ўна адбілася на сацыяльнай палітыцы, матэрыяльным дабрабыце народа.

Сталін на базе дзяржаўнай вытворчасці адзяржавіў грамадства. Нездарма дэмакратыя, як стан грамадскага жыцця, падраздзяляецца на палітычную і вытворчую. Другая пакуль не ў пашане — аб ёй гавораць мала (робяць яшчэ менш), хаця першая — вытворная ад другой і дзейсная толькі таму, што мае карані ў ёй.

У СССР ні той ні іншай дэмакратыі не было. Асабліва цяжкія і цяжка перадольныя вынікі гэтага стану, як паказвае працэс перабудовы,— чалавек. Адсутнасць дэмакратыі стварыла ўмовы для эксплуатацыі таленту пасрэднасцю, працы — лянотай, сумленных працоўных — карумпіраванымі элементамі, кіруемых — кіруючымі. Чалавек быў пазбаўлены на працягу дзесяцігоддзяў магчымасцей фарміравання сябе ў якасці высокакваліфікаванага ўдзельніка грамадскай вытворчасці і свабоднага грамадзяніна, асобы з адпаведнай сацыялізму палітычнай культурай.

Не ўдаючыся ва ўсе аспекты палітычнага становішча пралетарыяту пасля перамогі Кастрычніка, якое, зразумела, у корані змянілася, таму што ён стаў пануючым класам, хацелася б асэнсаваць яго ў суадносінах з дзяржавай. Яно пайшло паступова не на яго карысць. Пралетарыят раней процістаяў буржуазіі, як свайму антыподу, змагаўся супраць яе, пільна назіраў за ёю, бачыў у кожным яе кроку нешта супярэчнае яго жыццёвым інтарэсам і інтарэсам іншых працоўных класаў і слаёў, у якіх бачыў сваіх саюзнікаў, быў салідарны з імі. Цяпер жа ўсё стала наадварот. Сістэма абыходзілася з ім, як з мяккім воскам, і ляпіла з яго сваю апору.

Усталяванне дзяржаўнай вытворчасці як пануючай прывяло да таго, што прававое становішча працоўных мас у сістэме вытворчых адносін мала змянілася. Працоўны з **наёмнай** рабочай сілы асобных капіталістаў і іх манаполій ператварыўся ў **наёмную** ж рабочую сілу дзяржавы. Пры сацыялізме дзяржаўнага сэнсу, які цалкам выключае ўсялякую канкурэнцыю, але гарантуе клопат дзяржавы аб прадастаўленні кожнаму работы, забяспечанасць адукацыяй, аховай здароўя, жыллём і да т. п., наёмная рабочая сіла ўсё ж нармальна функцыяніраваць не можа.

Дзяржаўная манаполія ў процівагу грамадскай уласнасці на сродкі вытворчасці тоіць у сабе для грамадства многія беды. **Першая** сярод іх звязана са стварэннем адпаведнай ёй палітычнай сістэмы, — адміністрацыйна-каманднай, якая складаецца з многіх мільёнаў чыноўнікаў, што фактычна сталі новым класам. Пры дзяржаўным сацыялізме гэтыя «слугі народа», як яны сябе называюць, служаць сабе і нікому іншаму. Адміністрацыйна-камандная сістэма лепш за ўсё падыходзіць дзяржаўнаму сацыялізму. Гэта вельмі выразна пацвердзілася ў застойны перыяд, калі яна вымушана была крыху аслабіць «лейцы». Сістэма страціла некаторыя свае найбольш адыёзныя рысы — нагнятанне страху, палачнай дысцыпліны. І вытворчасць стала трашчаць па ўсіх швах, падышоўшы да перадкрызіснага стану. Адсюль цяперашні сум бюракратыі па «закручванню» гаек.

Дзяржапарат як бы ўцягваў у сябе кіруючую і накіроўваючую сілу грамадства — правячую Камуністычную партыю, залучаў яе да вырашэння ўсіх вытворчых пытанняў, у тым ліку і чыста тэхналагічнага напрамку. Партыя такім чынам пазбаўлялася магчымасці займацца сваімі непасрэднымі абавязкамі — распрацоўваць тэорыю для навуковага, палітычнага кіраўніцтва грамадствам. Яна становіцца часткай дзяржаўнага апарата з усімі вынікаючымі адсюль негатыўнымі для грамадства з'явамі.

Вытворчыя адносіны ў гэтых умовах паглынаюцца палітычнымі рэгулятарамі, вынікам чаго з'яўляецца немагчымасць укаранення эканамічных метадаў кіравання грамадствам. Бюракратыя непазбежна выклікае культ і кульцікі пасад, таму што дабрабыт яе кожнага звяна залежыць ад вышэйстаячых асоб. У гэтым, перакананы, закладзены першапачаткова ў дзяржаўнай вытворчасці «генетычны код» рэжыму асабістай улады, правадырства ў іх «сацыялістычным» варыянце.

Другі вынік — параджэнне масавай псіхалогіі ўтрыманства і апалітычнасці. Ад дзяржавы прывыклі ўсё жыццё прасіць: дай работу, дай жыллё, дай тое, дай іншае... Між тым, сацыялізм — не дойная карова, і тым больш — не багадзельня. У выніку сёння ва ўсіх класах, слаях і групах грамадства маюцца многія тысячы тых, хто фармальна працуе, хто прывык атрымліваць незаробленую плату, стаў перашкодай перабудове вытворчасці на пачатках арэнды і гасразліку.

Трэцяе — няўмольная тэндэнцыя да уніфікацыі ўсяго і ўся, да ўраўняльнасці працоўнага ўкладу кожнага, што супярэчыць самой індывідуальнай прыродзе чалавека, кожнай асобы. Як вынік — арыентацыя на сярэдні ўзровень, на сярэднюю асобу. Эпоха дзяржаўнай вытворчасці з яе адміністрацыйна-каманднай сістэмай стварыла адпаведную ёй мараль пакорнасці, абыякавасці, апалітычнасці, адыходу ў асабістае жыццё.

Чацвёртае — манапольная дзяржаўная вытворчасць паразітуе на спажыўцах, збываючы ўсё, што выпусціць. Купляць жа больш няма дзе ва ўмовах адсутнасці канкурэнцыі.

Пятае — савецкая эканоміка стала стратнай, паколькі існуе за кошт завышаных цэн на выпускаемую прадукцыю, за кошт «нажніц» на прадукцыю прамысловасці і сельскай гаспадаркі. Савецкі Саюз стаў закупляць хлеб і многае іншае ў замежных краінах.

Усе гэтыя характарыстыкі пабудаванага ў СССР грамадства так ці інакш гучалі ў апошні час у выступленнях палітычных лідэраў, вучоных-грамадазнаўцаў, публіцыстаў. Сабраныя разам, гэтыя рысы даюць, на мой погляд, карціну сацыялізму як грамадства манаполіі дзяржавы ва ўсіх сферах жыцця. Перабудова зрабіла першыя рашучыя крокі па разбурэнню такой манаполіі, даўшы старт працэсам дэмакратызацыі, публічнасці, эканамічнай рэформы, адмове ад дагматычных уяўленняў у тэорыі. Карацей кажучы, працэсам вяртання да ленінскай канцэпцыі сацыялізму.

**Агдас БУРГАНАЎ,**
**прафесар, кандыдат гістарычных навук.**

# ПРЫЙДЗЕ ТАКІ ЧАС...

Добры дзень, дарагія сябры! Даўно не пісалі вам. На жаль, гады бяруць сваё: узнікае шмат праблем са здароўем. Трэба сказаць, што настрой у нас не вельмі добры. Усё з-за таго, што не можам яшчэ раз пабываць на Радзіме. Іншы раз задумаешся, і неяк дзіўна робіцца: усё жыццё прайшло тут, дзе жывём і зараз, і, як гаворыцца, усякае бывала. Часам было і вельмі дрэнна, часам — лягчэй. Цяпер наш век ужо ідзе на скон. Жывём нядрэнна. Здаецца ж, свой дом, свой агарод, а яно ўсё не так. Многае ў жыцці мяняецца, але ёсць адно незаменнае: імя яму — Радзіма, тое месца, дзе чалавек зрабіў першыя крокі. Для нас яно заўсёды святое, і няма на планеце іншага такога месца, да якога б так імкнулася душа. Вось чаму мы ўвесь час сумуем па Беларусі. Толькі і радасці, што пісьмо ад каго-небудзь з радзімай старонкі і ваша газета «Голас Радзімы». Гэта самыя дарагія госці ў нашым доме.

З вялікай цікавасцю сочым за ўсім, што адбываецца сёння на Радзіме. Мы заўсёды ганарыліся ёю, але цяпер гэты гонар асаблівы. Савецкі Саюз паказвае ўсяму свету прыклад не толькі новага падыходу да міжнародных адносін, але і прыклад пабудовы сапраўды дэмакратычнага і справядлівага грамадства для ўсіх яго членаў. Нам гэта асабліва радасна, бо мы жывыя сведкі практычна ўсёй гісторыі першай у свеце сацыялістычнай дзяржавы.

Вось ужо семдзесят адзін год прайшоў з таго часу, як наш народ здзейсніў рэвалюцыю. Колькі цяжкіх выпрабаванняў выпала на долю савецкіх людзей! Войны, голад, разруха. Нягледзячы на гэта, наша Радзіма стала магутнай дзяржавай, з якою сёння лічыцца ўвесь свет. Але калі б савецкі народ заўсёды ішоў па ленінскаму шляху, то, напэўна, дабіўся б значна большых вынікаў. Уладзімір Ільіч Ленін быў сапраўды вялікім чалавекам. Народ яму верыў, і ён клапаціўся толькі аб народзе. Ленін заўсёды шчыра: уся ўлада Саветам, фабрыкі рабочым, зямля сялянам. Гэтыя справядлівыя лозунгі, калі б іх ажыццявілі поўнасцю, зрабілі б нашу Радзіму самай перадавой ва ўсіх адносінах краінай у свеце. На жаль, людзі, якія прыйшлі да ўлады пасля Леніна, сказілі іх. Яны клапаціліся толькі пра ўласную веліч. Вось і дайшло да таго, што інтарэсы працоўных сталі ігнараваць, пасада стала вызначаць вартасць чалавека, з'явіліся падпольныя мільянеры, якія нажылі багацце несумленна, а ў магазінах не хапае неабходных тавараў і прадуктаў.

Я вось цяпер чытаю аповесць Аркадзя Сахніна «Непазбежнасць». У ёй вельмі праўдзіва паказана, што ў многіх месцах людзі, якія займалі кіруючыя пасады, былі на самай справе рабаўнікамі і хапугамі, ворагамі савецкай сістэмы і ленінскай спадчыны. Проста балюча становіцца, калі даведваешся пра такое.

Я шэсць разоў быў у СССР і прыглядваўся да многага. Асабліва мяне цікавіла жыццё сялян. І я зрабіў вывад, што ва ўсіх эканамічных цяжкасцях, якія цяпер паўсталі перад краінай, вінаваты начальнікі. Простыя людзі, сяляне, рабочыя заўсёды рады добра працаваць, але ў іх апускаюцца рукі, калі начальства ім перашкаджае. І я, як патомны хлебароб, думаю, што, пакуль селяніну будуць перашкаджаць працаваць, краіна наперад не пойдзе і нават будзе спаўзаць назад.

Вы мне прабачце за мае думкі, але я не абыякавы да таго, што стане з маёй Радзімай. Для мяне гэта вострае пытанне. Я бачыў на Радзіме многа цудоўнага, такога, чаго нідзе больш не ўбачыш, больш мне крыўдна, што ў савецкіх магазінах не заўсёды можна купіць тое, што хочаш.

Але жыццё бярэ сваё і вымятае смецце. Як радасна чытаць цяпер навіны з Радзімы! І ў газетах, і ў пісьмах пішуць, што ўсё ідзе да лепшага, і па ўсім відаць: Камуністычная партыя на чале з Міхаілам Сяргеевічам Гарбачовым узяла правільны курс на перабудову і зможа вярнуць краіну на сапраўдны ленінскі шлях развіцця. Не сумняваюся, што так і будзе, паколькі гэта жаданне ўсяго савецкага народа. Мы, замежныя суайчыннікі, горача вітаем і падтрымліваем палітыку перабудовы, дэмакратызацыі і публічнасці.

Вельмі добра, што вы цяпер адкрыта гаворыце пра недахопы. Гэта дазволіць у далейшым пазбегнуць многіх памылак. Першыя поспехі перабудовы ўжо ёсць — гэта поспехі ў знешняй палітыцы.

М. С. Гарбачоў даказаў цвёрдым ілбам на Захадзе, што альбо мы будзем жыць на гэтай планеце, паважаючы адзін аднаго, альбо ад усіх нас застанецца толькі мокрае месца. Новая знешняя палітыка Савецкага Саюза прымушае нават вар'ятаў спыніцца.

Заходнія дзеячы спрабуюць вучыць СССР, як яму трэба перабудоўвацца, але ці маюць яны на гэта права? Вырашылі б спачатку свае праблемы.

Амерыканцы хваляцца колькасцю тавараў, але яны маўчаць пра галодных і бяздомных. Амерыка любіць паказваць усё, што блішчыць, а пра ржу стараецца не гаварыць. Але я на свае вочы бачыў там халупы, галодных, беспрацоўных. Вось яшчэ прыклад з нашага канадскага жыцця. У мінулым годзе нашы сельскагаспадарчыя раёны паразіла такая засуха, што ў большасці месцаў ураджай загінуў. Мы тут на поўначы яшчэ крыху сабралі, але ў цэлым карціна сумная. Самыя старыя людзі такога не прыпомняць. І вось цяпер з элеватараў звальняюць многіх рабочых. Элеватары ў нас — прыватная ўласнасць, і кожны клапоціцца пра сваю кішэню. Вялікая свіння становіцца ўздоўж карыта і выбірае, што лепшае, а іншыя хапаюць у яе з-пад ног, што трапляе. Такая «свінячая» сістэма, на жаль, і цяпер існуе ў многіх краінах. Прыемна, што ў нас на Радзіме такога быць не можа.

Хачу напісаць яшчэ вось пра што. Нядаўна ўсе мы з вялікай цікавасцю сачылі за ходам Алімпійскіх гульняў у Сеуле. Шчасцем было для нас бачыць, як савецкія спартсмены ўзыходзілі на п'едэстал пераможцаў, радасць ахоплівала кожны раз, калі ў далёкім Сеуле гучаў гімн нашай Радзімы, на шматтысячных спартыўных пляцоўках узнімался дзяржаўны флаг СССР! Пачуццё гонару ўзнікала ў нас пры думцы аб тым, што трыумф савецкіх спартсменаў бачаць сотні мільёнаў жыхароў Зямлі. Не ўсім гэта падабалася, але нічога не зробіш — гонар па заслугах.

Я веру, што прыйдзе такі час, калі ўся наша Радзіма паднімецца на высокі ганаровы п'едэстал і на яе будуць раўняцца іншыя народы. Для гэтага трэба ўсімі сіламі падтрымліваць Міхаіла Сяргеевіча Гарбачова ў поўным ажыццяўленні перабудовы і накіраваць краіну дакладна па ленінскаму шляху. Няма сумнення, што тады савецкі народ даб'ецца ўсяго. Нашай Радзіме няма канца і краю, наш народ ужо не раз даказаў, што яго магчымасці і здольнасці бязмежныя. Патрэбны толькі, як і ў спартыўнай камандзе, добрыя, сапраўдныя кіраўнікі і арганізатары.

Жадаем вам, дарагія сябры, поспехаў і перамог у гэтай нялёгкай, але неабходнай справе, якую вы пачалі.

**Ірына і Аляксей ГРЫЦУКІ.**
Канада.

# КАРЫСНАЯ ПАЕЗДКА

У мінулым годзе ў складзе дэлегацыі ад нашага часопіса «Патрыот» мне давялося пабываць на Радзіме. Ехалі мы на стажыроўку, арганізаваную Таварыствам «Родина» ў Маскве.

Спачатку здавалася, што двухдзённае падарожжа ў поездзе будзе стамляючым, але, захопленыя размовамі, мы і не заўважылі, як праляцеў час. Гаварылі пра сваё жыццё, пра работу ў аддзелах нашага Саюза савецкіх грамадзян Бельгіі і ўвогуле аб нашай арганізацыі.

Акрамя сувеніраў, везлі мы ў сваіх дарожных сумках нашу гордасць — апошнія нумары часопіса «Патрыот».

Першымі савецкімі людзьмі, з якімі мы сутыкнуліся ў дарозе, былі праваднікі нашага вагона, дарэчы сказаць, вельмі мілыя і ветлівыя. Калі яны даведаліся, што мы едзем на стажыроўку, сталі распытваць аб нашай арганізацыі, з цікаўнасцю і здзіўленнем разглядалі часопіс «Патрыот», захапляючыся нашай дзейнасцю. З удзячнасцю прынялі ў падарунак адзін экземпляр часопіса.

А поезд усё хутчэй набліжаў нас да савецкай граніцы, да Радзімы, дзе я не была ўжо пяць гадоў. З якім хваляваннем глядзела я ў акно на нашы гарады і вёсачкі, з якім радасным пачуццём зноў ступіла на родную зямлю!

Стажыроўка пачалася на наступны дзень пасля нашага прыезду. Яна аказалася вельмі карыснай для нас, дала многа новых, неабходных у рэдакцыйнай рабоце ведаў і навыкаў.

Пасля гэтага па запрашэнню Беларускага таварыства «Радзіма» мы паехалі ў Мінск. Пазнаёміліся з прадстаўнікамі Таварыства. Затым нас запрасілі ў рэдакцыю газеты «Голас Радзімы». Яе супрацоўнікі з цікавасцю слухалі расказ пра нашу работу, далі высокую ацэнку часопісу «Патрыот». І зноў мы атрымалі мноства добрых парад і прапаноў.

На наступны дзень павінна было адбыцца знаёмства з супрацоўнікамі часопіса «Работніца і сялянка». Але перш мы вырашылі пабываць у Хатыні. І вось мы ў машыне імчымся па выдатнай шашы. Мінск, як і многія гарады Савецкага Саюза, вызначаецца высокімі шматпавярховымі дамамі, шырокімі бульварамі. Па дарозе мы любаваліся прыродай Беларусі.

Вось і Хатынь. Гэтае месца цяжка апісаць, лепш адзін раз убачыць, пачуць жалобнае перазвоніканне званоў, якія нібыта смуткуюць аб загінуўшых...

Калі вярталіся назад, нікому не хацелася гаварыць, кожны думаў пра лёс нашага шматпакутнага народа, той-сёй успамінаў сваё жыццё.

У рэдакцыі часопіса «Работніца і сялянка» нас прымалі галоўны рэдактар Марыя Карпенка, супрацоўнікі рэдакцыі. За традыцыйнай шклянкай чаю адбылася прыемная бяседа. А вечарам мы былі запрошаны на вячэру, якая была наладжана для нас і дэлегацый, што прыехала на курсы мастацкай самадзейнасці. Пасля вячэры мы развіталіся з нашымі суайчыннікамі з Бельгіі, Галандыі і Польшчы, пажадаўшы ім удачы ва ўсім.

Ужо па дарозе ў Бельгію не раз вярталіся ў памяці да тых мясцін, дзе пабывалі, успаміналі старых і новых сяброў, з якімі давялося сустрэцца.

Яшчэ раз дзякуй Таварыству «Родина» за запрашэнне, дзякуй за ўсё, што робіцца для суайчыннікаў, якія жывуць удалечыні ад роднай зямлі. Мы таксама ад усяго сэрца дзякуем супрацоўнікам Таварыства «Радзіма» за цёплы прыём.

**Лідзія ПЯТРОВА.**
Бельгія.

# ЧУЖОГА ГОРА НЕ БЫВАЕ

Вашу цудоўную газету я цяпер атрымліваю рэгулярна, і прыходзіць яна даволі хутка. Дзякуй за ўсе навіны, якія мы чытаем з цікавасцю, за ваш клопат, за памяць пра нас.

У нашым аддзеле Саюза савецкіх грамадзян Бельгіі ідзе актыўная работа. Уся Бельгія ўзнялася на дапамогу пацярпеўшай Савецкай Арменіі. Наш горад Шарлеруа адразу выслаў вагон адзення. Члены аддзела сабралі грошы, аддзяленне таварыства дружбы «Бельгія — СССР» — таксама. У красавіку арганізуем вечар у ратушы Шарлеруа, на якім выступяць артысты з Валгаграда, і ўвесь збор перададзім у фонд пацярпеўшых ад землетрасення. Учора па Бельгійскаму тэлебачанню паказвалі, як яшчэ дванаццаць грузавікоў адправіліся ў Арменію з прадуктамі, медыкаментамі, адзеннем. А колькі самалётаў вылятала з урачамі, медыцынскім абсталяваннем у першыя дні няшчасця! Збор грошай усё яшчэ працягваецца, кожны стараецца быць шчодрым, ніхто не застаецца ўбаку. Чужога гора не бывае!

**Марыя ГАРОХ.**
Бельгія.

# НЕ ПАЗНАЦЬ РОДНЫЯ МЯСЦІНЫ

Паважаная рэдакцыя «Голасу Радзімы»!

Піша да вас з Канады завочна знаёмы з вамі Рыгор Осіпавіч Аплевіч. Я ўжо многія гады атрымліваю вашу газету і з вялікім хваляваннем чытаю яе. Вядома ж, мяне, як і большасць беларусаў, хто жыве ўдалечыні ад Радзімы, вельмі цікавіць усё, што тычыцца Беларусі. Разам з вамі мы радуемся вашым поспехам, таму, што ў вашым жыцці прыкметны пастаянны прагрэс. Кожны нумар газеты — падзея ў маім жыцці. Але асабліва я ўцешыўся, калі нядаўна атрымаў ад вас нумар «Голасу Радзімы», у якім была надрукавана карэспандэнцыя «Гордасць Рыгора Аплевіча» і змешчаны здымак маёй старой школы ў Верцялішках, а таксама фатаграфія маіх родных, якіх я ўжо даўно не бачыў. Мяне гэта вельмі ўсхвалявала і ўзрадавала.

Акрамя таго, нядаўна я атрымаў пісьмо ад свайго пляменніка Міхаіла, з якім сустракаўся ваш карэспандэнт. З гэтага пісьма таксама даведаўся многа новага і цікавага для сябе. Мяне засмуціла, што пакуль яшчэ па інерцыі працягваецца працэс выезду моладзі з вёскі ў горад на работу. Раней гэта было зразумела. Не сакрэт, што вясковае жыццё вельмі моцна адрознівалася ад гарадскога. Работы больш, і яна больш цяжкая, умовы жыцця горшыя, і заработкі меншыя. Ну, а моладзі часам нават не было дзе адпачыць пасля работы, сабрацца разам. Але цяпер жа іншыя часы. Я ведаю, што зараз сельскія працаўнікі зарабляюць вельмі добра, нярэдка значна больш за гарадскіх. У газетах мы чытаем, што з пачаткам перабудовы ў вашай краіне вельмі многа ўвагі надаецца вёсцы. Там узводзяць добрыя дамы, клубы, спартыўныя збудаванні. Сялянам не толькі перасталі забараняць мець асабістую гаспадарку, але і ўсяляк заахвочваюць да гэтага. Дапамагаюць сенам, кармамі, закупляюць прадукцыю з асабістых двароў.

Навошта ж пакідаць свае мясціны? Відаць, у некаторых людзей меркаванні яшчэ засталіся ранейшымі. Гэтую маю здагадку пацвердзіла другая навіна, якая вельмі парадавала мяне, у пісьме майго пляменніка. Аказваецца, цяпер да іх у вёску прыязджаюць, каб працаваць і жыць, нямала людзей з іншых раёнаў і гарадоў. Для прыезджых калгас купляе дамы, дзе цяпер ніхто не жыве, будуе новыя, для часовага пражывання ёсць некалькі кватэр тыпу інтэрната. Працуюць гэтыя людзі механізатарамі, даяркамі, цялятніцамі. Ведаю, што гэтыя прафесіі цяпер добра аплачваюцца. Значыць, людзі не павінны пашкадаваць аб сваім рашэнні пераехаць у вёску. Будзе карысць і ім самім, і калгасу.

У 1971 годзе мне пашанцавала пабываць на Радзіме. Вядома ж, я стараўся наведаць усе памятныя з дзяцінства мясціны. Неяк мы ехалі з пляменнікам па шашы з Азёр у Верцялішкі. Дарога праходзіла цераз Боркі, дзе мы спыніліся. Тады там нічога не было, а цяпер пабудавалі такі вялікі адкормачны комплекс. Чаму мяне гэта так здзівіла? Проста я добра помню тую мясцовасць і ведаю, што раней там было вельмі дрэнна з кармамі. Зямля неўрадлівая, пясчаная, у асноўным зарослая хмызняком. А другая частка звалася «багно», забалочаны ўчастак з хмызняком і тарфянымі ямамі. Мне цяпер прыходзіць на памяць, як некалі ў дзяцінстве я пасвіў там карову з нашай вёскі і адна з кароў зайшла так далёка ў тое багно, што загразла і ўжо не магла сама выбрацца, і я выцягнуць яе не мог. Я павінен быў бегчы ў вёску і клікаць мужыкоў з вяроўкамі на дапамогу. Доўга ім давялося валтузіцца, пакуль выцягнулі тую карову. Ох, і дасталася мне тады! Цяпер успамінаю — смешна. А тады вельмі спалохаўся. Калгас асушыў балота і цяпер здымае некалькі ўкосаў траў. Іншыя ўчасткі таксама палепшылі, і цяпер яны даюць нядрэнны ўраджай ячменю, пшаніцы, аўса. Так што кармоў нават для такога буйнога адкормачнага комплексу хапае.

Цуды твае, госпадзі! Да чаго змяніўся свет у нашым двацатым стагоддзі!

Усе гэтыя навіны прыйшлі для мяне нечакана, і вялікае вам усім, сябры, дзякуй за вашу працу. Свет не без добрых людзей. Я б хацеў толькі яшчэ папрасіць, калі можна, каб выслалі некалькі экземпляраў гэтай газеты маім родным у Рыдзялі. Няхай парадуюцца разам са мной і зразумеюць, што, як бы далёка ні закінуў нас лёс, мы заўсёды помнім пра Радзіму і любім яе.

**Рыгор АПЛЕВІЧ.**
Канада.

